ПРОЛЕТАРЫ! ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

УПРАЎЛЕННЕ НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

ДЛЯ СЛУЖБОВАГА КАРЫСТАННЯ



# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 12 (61)

СНЕЖАНЬ 1937 г.



ВЫДАННЕ УНГУ БССР
МЕНСК — 1937

ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ

УПРАЎЛЕННЕ НАРОДНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎЧОТА БССР

ДЛЯ СЛУЖБОВАГА КАРЫСТАННЯ

# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## № 12 (61)

СНЕЖАНЬ 1937 г.





ВЫДАННЕ УНГУ БССР
МЕНСК — 1937

## Усім начальнікам акруговых УНГУ, усім райгор-інспектарам Наргасучота

Дасылаючы пры гэтым да вашага ведама дырэктыву НКЗ БССР ад 25/XI—37 г. за № 10-8-7 аб правядзенні інвентарызацыі ў калгасах і МТС, прапануем, выходзячы з велізарнейшай важнасці правядзення інвентарызаці і своечасовага яе сканчэння ў звязку з перапісам жывёлы, пракантраляваць выкананне гэтага распараджэння райЗА і МТС, а таксама прыняць актыўны ўдзел і дапамагчы райЗА і МТС у правядзенні інструктажа калгасаў па правядзенню інвентарызацыі і кантролю за ходам самой інвентарызацыі ў калгасах і МТС.

Аб усіх заўважаных недахопах у правядзенні гэтай работы паведаміце нам і аддзелу ўчота НКЗ БССР.

Ч. в. а. нач. Наргасучота БССР Абудзееў.

Начальнік Аддзела ўчота сельскай гаспадаркі УНГУ БССР Гінзбург.

В. тэрмінова

## Загадчыкам райЗА і дырэктарам МТС

Набліжаецца канец года, а разам з гэтым усе калгасы павінны будуць падвесці вынікі сваёй гаспадарча-фінансавай дзейнасці і ў далейшым прыступіць да размеркавання па працаднях калгаснікаў багатага ўраджая, сабранага ў бягучым годзе.

Паспяховасць выканання гэтай важнейшай, сугуба палітычнай работы ў справе калгаснага будаўніцтва будзе залежаць у першую чаргу ад належнага правядзення інвентарызацыі ў калгасах на працягу снежня месяца г. г. Гэта значыць не толькі правесці рэвізію ўсёй гаспадарчай дзейнасці кожнага паасобку калгаса, але і фактычна ажыццявіць праверку наяўнасці асноўных сродкаў вытворчасці, прадуктаў, матэрыялаў, грашовых сродкаў і разлікаў.

Пагэтаму, надаючы выключна важнае значэнне прадстаячаму правядзенню інвентарызацыі ў калгасах, абавязваю выканаць наступнае:

1. Не пазней 1 снежня 1937 г. правесці раённыя інструкцыйныя нарады старшынь калгасаў, рэвізійных камісій і рахункаводаў калгасаў.

На гэтых нарадах праработаць гэта ўказанне, формы бланкаў па інвентарызацыі, якія вам ужо высланы, парадак іх запаўнення і г. д.

2. Адказнасць за правільнасць і своечасовае правядзенне інвентарызацыі ўскладаецца на старшынь і праўленні калгасаў у цэлым, рэвізійныя камісіі, рахункаводаў калгасаў, заг. райЗА і дырэктароў МТС, а ў адносінах жывёлы ў калгасах—на заатэхнічны персанал як пры райЗА, так і работаючы на ўчастках.

3. Для правядзення інвентарызацыі маёмасна-матэрыяльных каштоўнасцей і грашовых сродкаў праўленню калгаса стварыць інвентарызацыйную камісію ў складзе старшыні праўлення, рахункавода калгаса і 2—3 членаў калгаса з стаханаўцаў і ўдарнікаў.

Побач з гэтым шырока разгарнуць грамадска-масавую работу па растлумачэнню значэння і ступені важнасці найлепшага правядзення інвентарызацыі, сканчэння гэтай работы ў вызначаныя тэрміны і на падставе гэтага ўцягнуць, для актыўнага ўдзелу ў рабоце камісіі па інвентарызацыі, калгасны актыў.

4. На рэвізійную камісію ў поўным складзе ўскладаецца правядзенне праверкі правільнасці налічэння працадзён, становішча разлікаў з членамі калгасаў па выданых авансах на 1 снежня г. г. і разліках з калгаснікамі за снежань месяц, апрача гэтага выяўленне недахопаў пры зняцці астаткаў маёмасна-матэрыяльных каштоўнасцей і грашовых сродкаў, устанаўленне наяўнасці лішкаў і недахопаў.

5. Усе асноўныя сродкі вытворчасці (акрамя жывёлы), запасы матэрыялаў і іншыя, не змяняючыяся ў сваім складзе да канца года, належаць інвентарызацыі па становішчу на 1 снежня 1937 г. Астатнія каштоўнасці (прадукты, грашовыя сродкі, жывёла) інвентарызуюцца па становішчу на 1 студзеня 1938 г.

6. Становішча разлікаў калгаса з арганізацыямі і асобамі павінны заносіцца ў асобныя вопісі па дэбіторах і крэдыторах.

7. Інвентарныя вопісі прадуктаў складаюцца не толькі па асобных культурах, але і абавязкова па гатунках; кожны гатунак прадукта заносіцца ў вопісь асобна.

На насенны матэрыял складаюцца асобныя вопісі.

8. Каб не было разыходжанняў даных інвентарызацыі з данымі перапісу жывёлы, належачага правядзенню органамі УНГУ, на падставе пастановы СНК СССР ад 19 лістапада 1937 г. у інструкцыю па інвентарызацыі мінулага года ўносяцца наступныя змены і дадаткі:

а) У бланках інвентарызацыі жывёлы—форма № 2 дадаткова ўнесці графу „пол“, перад графой „узрост“.

б) У вопісь жывёлы ў графе „ўвага“ неабходна зрабіць паметку аб пародным складзе жывёлы. Для жывёлы, запісанай у племянныя кнігі, паказваецца год і нумар запісу. Для другой племянной і пароднай жывёлы паказваецца назва і нумар дакумента (пасведчанне, атэстат), пацвярджаючага пароднасць і племянныя якасці жывёлы.

в) У інструкцыі па інвентарызацыі на 4-й старонцы п. 1-шы—„рабочая жывёла“, п. 2-гі „маладняк рабочай жывёлы“, п. 3-і „прадукцыйная жывёла“, п. 4-ы „маладняк прадукцыйнай жывёлы“ із'яць і замест іх увесці ў інструкцыю наступныя пункты:

1) Коні:

а) Жарабцы старэй 3-х год,
мерыны старэй 3-х год,
кабылы старэй 3-х год.

б) Маладняк нараджэння 1935 г., з разбіўкай на жарэбчыкаў, мерынаў і кабыл.

в) Маладняк нараджэння 1936 г., без разбіўкі па полу.

г) Жарабяты да 1 года (нараджэння 1937 г.), без разбіўкі па полу.

2) Буйная рагатая жывёла:

а) Быкі старэй 1 года (нараджэння 1936 г. і раней).

б) Валы старэй 2-х год (нараджэння 1935 г. і раней).

в) Волікі-кастраты ад 1 да 2-х год (нараджэння 1936 г.).

г) Каровы.

д) Маладняк старэй 1 года (нараджэння 1936 г. і раней), з разбіўкай на нецелей і цёлак.

е) Цяляты да 1 года (нараджэння 1937 г.), без разбіўкі на палавыя прызнакі.

3) Свінні: а) Старэй 9 месяцаў (нараджэння студзень—сакавік 1937., 1936 г. і раней), з разбіўкай на кныроў-вытворнікаў, кабаноў-кастратаў і свінаматак.

б) Маладняк ад 4-х да 9 месяцаў (нараджэння красавік—жнівень 1937 г.), без разбіўкі па полу.

в) Парасяты да 4-х месяцаў (нараджэння верасень—снежань 1937 г.), без разбіўкі па полу.

4) Авечкі і козы:

а) Авечкі і козы старэй 1 года (нараджэння 1936 г. і раней), з разбіўкай на бараноў, казлоў, валух,-кастратаў, коз, матак і ярак (разам).

б) Ягняты да 1 года (нараджэння 1937 г.), з разбіўкай на баранчыкаў, валушак-кастратаў, ярачак і матак (разам).

в) Казляты да 1 года (нараджэння 1937 г.), без разбіўкі па полу.

9. Інвентарызацыйныя вопісі, разам з зацверджанымі гадавымі справаздачамі, праўленні калгасаў прадстаўляюць у райЗА, а калгасы, абслугоўваемыя МТС,—у МТС; інструктары-бухгалтары райЗА і МТС абавязаны праверыць вопісі, супаставіўшы даныя інвентарызацыі з балансамі калгасаў.

10. Катэгарычна забараніць скарыстанне інструктароў-бухгалтароў на работах, не звязаных з іх асноўнымі абавязкамі па арганізацыі і паспяховаму правядзенню інвентарызацыі, складанню гадавых справаздач калгасаў, арганізацыі ўчота і фінансаў у калгасах.

11. На час правядзення інвентарызацыі жывёлы ў калгасах прыцягнуць увесь заатэхнічны персанал як райЗА, таксама і работаючых на ўчастках, і ўскласці на апошніх адказнасць за правільнае ўстанаўленне пароднасці і якасці ўсёй жывёлы ў калгасах. Пры інвентарызацыі належыць падыходзіць з асаблівай стараннасцю, маючы на ўвазе, што на падставе гэтых даных будуць будавацца ўсе мерапрыемствы па ўпарадкаванню і наладжванню племяннойсправы.

12. У асноўным інвентарызацыю ў калгасах закончыць не пазней 28 снежня г. г. з такім разлікам, каб на 1 студзеня 1938 г. канчаткова былі падведзены ітогі інвентарызацыі і даныя параўнаны з данымі заключнага баланса калгаса і асабіста па жывёле з данымі перапісу жывёлы, праводзімай органамі УНГУ за 1/I—38 г.

13. Абавязаць загадчыкаў райЗА і дырэктароў МТС не пазней 5 студзеня 1938 г. адчытацца на прэзідыумах райвыканкомаў аб выніках праведзенай інвентарызацыі ў калгасах раёна. Старшыні-ж калгасаў абавязаны ў снежні месяцы г. г. адчытацца на пашыраных пленумах с/советаў аб ходзе інвентарызацыі ў калгасах, а таксама аб падрыхтоўцы калгасаў да правядзення гадавой справаздачнасці і размеркавання прыбыткаў па працаднях.

14. Аб скончэнні інвентарызацыі па ўсіх калгасах раёна данесці Наркомзему не пазней 5 студзеня 1938 г.

Нам. наркома земляробства БССР Беляеў.

25 лістапада 1937 г.
№ 10—8—7.

## ЗАГАД № 364

### па Народнаму камісарыяту зернавых і жывёлагадоўчых соўгасаў БССР

*14 лістапада 1937 года*

У адпаведнасці з палажэннем аб бухгалтарскай справаздачнасці і балансах і загадам па Наркомсоўгасаў БССР за № 115, загадваю:

1. Правесці інвентарызацыю асноўных сродкаў: матэрыяльных, прадуктовых, грашовых і іншых ва ўстановах Нарката соўгасаў БССР к гадавой справаздачнасці за 1937 год.

2. Інвентарызацыю правесці ў наступныя тэрміны:

а) па прадуктах і матэрыялах—на 1-ае снежня 1937 года;

б) па асноўных сродках і незавершанай вытворчасці раслінаводства—на 1-ае лістапада 1937 года;

в) па незакончанаму будаўніцтву і абсталяванню—31 снежня 1937 года;

г) па прадукцыйнай жывёле, рабочай жывёле і маладняку—на 31 снежня 1937 года;

д) па разліковых рахунках, падсправаздачных асобах, грашовых і іншых каштоўнасцях—31 снежня 1937 года.

3. Адказнасць за своечасовае правядзенне, якасць і паўнату праведзенай інвентарызацыі ўскладзена на дырэктараў і старшых бухгалтароў соўгасаў і прадпрыемстваў.

Нарком НКсоўгасаў БССР Свінцоў.

## ЗАГАД № 929

### па Ўпраўленню народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 16/XI 1937 года*

За апошні час устаноўлены факты паўторных запатрабаванняў некаторымі аддзеламі (аддзел працы) ад райінспектур матэрыялаў, што з'яўляецца рэзультатам адсутнасці наладжанасці ў аддзелах рэгістрацыі паступаючых ад райінспектур матэрыялаў. Паўторныя неабгрунтаваныя запатрабаванні толькі перашкаджаюць райінспектарам займацца сваёй непасрэднай работай і выклікаюць непатрэбную перапіску паміж райінспектурамі і аддзеламі ўпраўлення.

Апрача таго, устаноўлены таксама факты дачы даручэнняў райінспектарам з нерэальнымі тэрмінамі для выканання (аддзел будаўніцтва). У мэтах папярэджвання падобных фактаў у далейшым—загадваю:

1. Усім начальнікам аддзелаў і кіраўнікам самастойных груп праверыць становішча рэгістрацыі паступаючых матэрыялаў ад райінспектур і іншых арганізацый.

2. Вылучыць спецыяльна работніка (аднаго—двух) у аддзеле—групе ў залежнасці ад умоў работы аддзела—групы, на якіх ускласці адказнасць за правільную і своечасовую рэгістрацыю паступаючых матэрыялаў, і спіс гэтых таварышоў прадставіць мне 19/XI.

3. У выпадках неабходнасці запатрабавання ад райінспектур, акруговых кіраўніцтваў матэрыялаў у другі раз—гэткія запатрабаванні дасылаць абавязкова за подпісам начальніка Ўпраўлення або яго намесніка і подпісам начальніка аддзела—групы.

4. Пры дачы даручэнняў акруговым кіраўніцтвам і райінспектурам—абавязкова правільна разлічыць неабходны час на выкананне гэтага даручэння, улічыўшы таксама і час, неабходны на дастаўку і зварот даручэння на месца прызначэння.

5. Тав. Глазман павінен даць экспедыцыі спіс раённых і гарадскіх інспектур асобна і акруговых упраўленяў з дакладнымі адрасамі і ўстанавіць строгі кантроль за правільнасцю рассылкі пошты і дастаўкі.

6. Зварачваю ўвагу т.т. Антонавай і Селедцова, што ў іх аддзелах мелі месца факты, прыведзеныя ў гэтым загадзе.

7. Абавязваю ўсіх начальнікаў аддзелаў работу па праверцы спісаў прадпрыемстваў, устаноў, населеных месц, у адпаведнасці з маімі ранейшымі ўказаннямі, закончыць да 20/XI і паведаміць мне аб гэтым.

Нам. начальніка Ўпраўлення Наргасучота БССР Шындлер.

## ЗАГАД № 906

### па Ўпраўленню народна-гаспадарчага ўчота БССР

*ад 4/XI 1937 г.*

Не гледзячы на папярэджанні ўчастковаму інспектару Наргасучота Журавіцкага раёна тав. Скрыганаву, згодна загада па УНГУ за № 249 ад 8/IV 1937 г., аб нядобраякасным і несвоечасовым выкананні шэрага работ па ўчастку, пералома ў рабоце тав. Скрыганава няма.

За апошні час тав. Скрыганаў сарваў прадстаўленне справаздач па справаздачнасці жывёлагадоўчых ферм калгасаў, справу ўчота абмалотаў у трох калгасах і шэраг іншых работ.

На падставе вышэйпаказанага загадваю:
тав. Скрыганава з работы зняць з 10 /XI 1937 г.

Ч. в. а. нач. УНГУ БССР Абудзееў.

## Усім работнікам сістэмы ЦУНХУ Дзяржплана СССР

ЦУНХУ Дзяржплана СССР прыступіла да складання папярэдняга праекта арганізацыйнай схемы і праграмы перапіснога ліста, праграмы распрацоўкі прадстаячага ўсесаюзнага перапісу насельніцтва і перапісных дапаможнікаў (слоўнікі заняткаў, вытворчасцей і інш.).

Бюро ўсесаюзнага перапісу насельніцтва ЦУНХУ запрашае ўсе УНГУ, усіх раённых інспектароў народна-гаспадарчага ўчота, асобных работнікаў сістэмы ЦУНХУ, у прыватнасці работнікаў ВУЗ'аў і тэхнікумаў Наргасучота, прыняць удзел у гэтай папярэдняй рабоце, шляхам дасылкі сваіх прапаноў у Бюро ўсесаюзнага перапісу насельніцтва ЦУНХУ Дзяржплана СССР.

Работнікі, даслаўшыя найбольш каштоўныя прапановы, будуць запрошаны ў Маскву для больш дэталёвай распрацоўкі іх прапаноў у Бюро ўсесаюзнага перапісу насельніцтва ЦУНХУ Дзяржплана СССР.

В. а. начальніка Бюро ўсесаюзнага перапісу
насельніцтва Пісараў.

## Усім інспектарам Наргасучота

Згодна распараджэння ЦУНХУ Дзяржплана СССР, Бюро перапісу насельніцтва УНГУ БССР устанаўлівае з 1/XII—37 г. справаздачнасць акруговых, гарадскіх і раённых інспектур НГУ аб ходзе выканання работ па падрыхтоўцы да перапісу насельніцтва 1939 г.

Справаздача прадстаўляецца па наступных пытаннях:

I. Праверка і наладжванне сельсовецкага ўчота:

а) скончана завядзенне новых пагаспадарчых кніг на 1938 год па . . . . . . . . . сельсоветах

б) праведзена праверка запісаў у кнігах на 1938 год па . . . . . . . . . . . . . . „

в) з агульнай колькасці правераных кніг:
запоўнена здавальняюча ў . . . . . . . „
„ нездавальняюча ў . . . . . . „

## II. Складанне спісаў населеных месц і ўдакладненне картаграфічнага матэрыяла:

а) складзена спісаў населеных месц і паступіла ў райінспектуру па . . . . . . . . сельсоветах;
б) удакладнена схематычных карт с/с і паступіла ў райінспектуру па . . . . . . . „
в) праверана райінспектарам у натуры правільнасць складання спісаў населеных месц па . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . „
г) праверана і прынята райінспектарам спісаў населеных месц і схематычных карт па . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . „

## III. Устанаўленне граніц, складаннне планаў гарадоў, рабочых (зацвердж.) пасёлкаў і іншых населеных месц:

а) пачата складанне плана . . . . . . . . . . . . . число
б) скончана „ „ . . . . . . . . . . . . „

## IV. Складанне спісаў домаўладанняў.

Улічана домаўладанняў:

з пачатку работы . . . . . . . . . . . . . . . .
за справаздачны перыяд . . . . . . . . . . . . . . .

Тэрмін высылкі інфармацыі ўстанаўліваецца 14-га і 28-га кожнага м-ца.

Да формы справаздачы абавязкова павінна быць далучана падрабязная інфармацыйная запіска, у якой павінна быць указана, калі праведзена нарада з участковымі інспектарамі па пытанню складання спісаў населеных месц, якія прыняты В/мерапрыемствы для забеспячэння добраякаснага правядзення гэтай работы. Калі прыступлена да складання спісаў населеных месц.

У якіх с/с праверана асабіста райінспектарам якасць складання спісаў населеных месц і якія выяўлены дэфекты.

У раёнах і гарадах, дзе вытвараецца складанне спісаў домаўладанняў, павінна быць указана, калі прыступлена да складання гэтых спісаў. Якія матэрыялы скарыстоўваюцца для добраякаснага і поўнага ўчота ўсіх домаўладанняў.

Што прадпрынята райінспектарам для прывядзення ў парадак наймення вуліц, нумарацыі дамоў, кватэр, а таксама ўстанаўлення меж горада ці гарадскога паселішча і канчатковага зацверджання іх райвыканкомам ці горсоветам, а таксама ахарактарызаваць якасць праведзенай работы і г. д.

Ч. в. а. начальніка Ўпраўлення Наргасучота БССР Абудзееў.

## Графік работы райінспектара па складанню спісаў населеных месц.

| Змест работы | Тэрмін выканання |
|---|---|
| Правядзенне інструкцыйнай нарады ўчастковых інспектароў разам з старшынямі с/с па пытанню аб складанні спісаў населеных месц і вядзенні сельсовецкага ўчота насельніцтва . . . . . | 10/XII |
| Складанне плана работ і маршрутаў участковых інспектароў па складанню спіса населеных месц і забеспячэння фармулярамі . . . . . . . . . | 10/XII |
| Практычнае запаўненне спіса населеных месц па аднаму с/с у раёне з усімі ўчастковымі інспектарамі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 15/XII |
| Праверка правільнасці складання ўчастковымі інспектарамі спіса населеных месц шляхам аб'езда ў натуры на кожным участку не менш 1-го сельсовета . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 1/I—38 |
| Таксама 1 сельсовета . . . . . . . . . . . . . | 1/II—38 |
| Праверка спісаў населеных месц шляхам супастаўлення іх з картамі і іншымі матэрыяламі, якія маюцца ў распараджэнні інспектара . . . . . . . . | На працягу снежня 1937 г. і студзеня 1938 г. па меры паступлення іх ад уч. інспектароў |
| Выкапіроўка спісаў населеных месц . . . . . . | На працягу ўсяго часу да 10/II |
| Правядзенне суцэльнай праверкі паўнаты і якасці запаўнення пагаспадарчых кніг . . . . . . . | 20/XII—1/II |
| Удакладненне раённай карты і высылка ў УНГУ ўсіх матэрыялаў (спісы населеных месц і карт с/сов. і раёнаў) . . . . . . . . . . . . . . . | 15/II |

## Усім начальнікам акр(гор)райлітаў БССР

Пастановай СНК СССР ад 9 мая 1931 г. органам Упраўленая Наргасучота СССР прадстаўлена права разглядаць і зацвярджаць праграмы і формы (паказчыкі, справаздачнасць, сістэму распрацоўкі, метадалогію вылічэнняў і г. д.) па ўсіх учотна-статыстычных работах, кантроль за становішчам учота і выкананнем статработ па ведамствах і грамадскіх арганізацыях Саюза СССР і ў рэспубліках.

Усе формы ўчота і справаздачнасці павінны быць зацверджаны ЦУНХУ СССР альбо УНГУ БССР.

Між тым, маюцца выпадкі друкавання друкарнямі форм учота і справаздачнасці без візы райліта і без дазволу УНГУ БССР.

Апрача таго, на надрукаваных бланках адсутнічаюць выпускныя даныя, што не дае магчымасці вызначыць, у якой друкарні зроблен заказ.

Прапаную ўсім нач. акр(гор)райлітам БССР не дазваляць друкаванне форм справаздачнасці без грыфа і даты ЦУНХУ СССР альбо УНГУ БССР, а формы пярвічнага ўчота без грыфа раённага інспектара Наргасучота і не выпускаць заказаў без указання назвы друкарні.

За парушэнне данага ўказання дырэктароў друкарань прыцягваць да адказнасці.

Ч. в. а. нач. Галоўліта БССР Ахрамовіч.

## ЗАГАД

### па Мазырскаму акруговаму ўпраўленню Наргасучота

*ад 15 лістапада 1937 года*

Мною асабіста праверана становішча пярвічнага ўчота ў Юравіцкім с/совеце, Мазырскага раёна, участка ўч. інспектара НГУ—Смародскага. Пры праверцы выяўлена хаатычнае становішча ўчота ў с/с: журнал ф. 1 маецца толькі на адзін (з чатырох) калгас, прычым запоўнен ён зусім няправільна, кнігі ф. 2 і 3 вядуцца нядбайна, ф. 4 наблытана, ф. 4-а адсутнічае зусім і г. д.

Амаль гэткае-ж становішча ўчота выяўлена ў правераным мною Мала-Аўцюкоўскім с/с.

У калгасе „Чырвоны сцяг", Юравіцкага с/с, пры праверцы інвентарнай вопісі і кніг па ўчоту жывёлагадоўлі выяўлена, што квартальная справаздача аб дзейнасці таварных ферм за ўсе 3 кварталы 1937 г. складзена зусім няверна і, акрамя таго, пушчаныя райінспектурай у зводку па раёну экземпляры ф. 23 за ўсе 3 кварталы 1937 г. разыходзяцца з застаўшыміся ў калгасе копіямі, паколькі ў іх самім Смародскім зроблена шмат выпраўленняў, без узгаднення з калгасам.

Сам Смародскі, не гледзячы на ўсе загады нач. УНГУ БССР і мае, вельмі мала знаходзіцца на сваім участку, а амаль увесь час знаходзіцца ў раённым цэнтры. Дзеннік ён не вядзе.

За зрыў правільнага вядзення с/совецкага ўчота па с/советах свайго ўчастка, за неналаджаванне ўчота ў калгасах, сталае знаходжанне ў раённым цэнтры, невядзенне дзенніка, падгонку лічбаў у справаздачах калгасаў—загадваю зняць з работы ўчастковага інспектара НГУ—Смародскага.

Райінспектару наргасучота Пехоце за недастатковае кіраўніцтва работай участковых інспектароў, непрыняцце захадаў па прадстаўленых яму ўчастковымі інспектарамі актах праверкі пярвічнага ўчота ў с/с, непрыняцце мер да наладжвання ўчота ў тых с/с-, дзе знахадзіўся сам працяглы час, як, напрыклад, у Юравіцкім с/с, адсутнасць праверкі ўчота ў калгасах і ў прыватнасці—праверкі правільнасці складання калгасамі квартальных справаздач аб рабоце ферм—абвяшчаю вымову.

Папярэджваю ўсіх раённых і ўчастковых інспектароў, што яны нясуць персанальную адказнасць за добрае становішча сельсовецкага ўчота і пры выяўленні ў будучым бухаатычнага становішча ўчота ў сельсоветах, вінаватыя будуць прыцягвацца да суровай адказнасці.

Таксама папярэджваю, што буду прыцягваць да самай суровай адказнасці работнікаў, заўважаных у самастойным выпраўленні справаздач калгасаў і прадпрыемстваў, падгонцы лічбаў і г. д.

Нач. Мазырскага акруговага ўпраўлення Наргасучота Флеер.

## Старшыні Мазырскага райвыканкома т. Буякову

Начальнікам Мазырскага акруговага ўпраўлення Наргасучота тав. Флеерам 3—4 лістапада 1937 г. праверана становішча пярвічнай справаздачнасці ў Нахаўскім, Юравіцкім і М.-Аўцюкоўскім с/советах вашага раёна. Ва ўсіх трох сельсоветах пярвічная справаздачнасць пастаўлена з рук вон дрэнна.

У выкананне пастановы СНК СССР і распараджэння старшыні акрвыканкома—прапануецца выклікаць старшынь памянутых с/советаў на чарговае паседжанне прэзідыума райвыканкома з дакладам аб становішчы пярвічнай справаздачнасці ў іх с/с і адначасова заслухаць райінспектара Наргасучота Пехоту аб дапамозе, якая аказана ім с/советам у наладжванні справаздачнасці.

Вінаватых у зрыве пярвічнай справаздачнасці прыцягніце да адказнасці.

Намеснік старшыні Мазырскага АВК Левін.

## Вынікі праверкі работы Бешанковіцкай інспектуры НГУ

1. Інспектура знаходзіцца ў асобным пакоі, належачым РВК. Памяшканне не вялікае, але для работы прыгодна.
2. Учотны матэрыял захоўваецца добра. Матэрыял за мінулыя гады падабран, падшыт. Да кожнай пачкі прыкладзена вопісь спраў. Справы з году ў год заводзяцца адным і тым-жа нумарам, што спрашчае работу.
3. Ітогі праведзеных работ ставяцца на прэзідыуме РВК, а таксама падаюцца дакладныя запіскі аб праверках і недахопах. Учотныя кампаніі райінспектар папулярызірує ў мясцовым друку.
4. Значны лік табліц кнігі асноўных паказчыкаў народнагаспадарчага плана не запоўнены. У запоўненых табліцах маюцца пропускі—не запоўнены асобныя графы табліцы.
5. Дзеннікі работы ўчастковых інспектароў райінспектар не правярае, і дзеннікі вядуцца неакуратна.
6. Планы работ за месяц не складаюцца. Вытворчыя нарады падвядзення ітогаў работы за месяц не ўтвараюцца.
7. Соцспаборніцтва як унутры інспектуры, так і з іншымі інспектурамі, не разгорнута.
8. Тэхвучоба не наладжана.
9. Запазычанасць маецца па кантрольнай рабоце па ільну, што створана не па віне інспектуры, а па віне сектара ўраджаю УНГУ, несвоечасова даўшага звесткі аб калгасах, у якіх павінна была быць праведзена гэта работа.

Раз'язны інспектар Банюшко.

## Становішча Мсціслаўскай інспектуры

Пры абследванні інспектуры ўстаноўлена наступнае:
1. Інспектура знаходзіцца ў 2-х асобных пакоях.
2. Транспартнымі сродкамі інспектура забяспечана: маюцца тры кані і адзін веласіпед.
3. Месячныя планы-заданні ўчастковых інспектароў складаюцца сістэматычна, але-ж не заўсёды робяцца адзнакі аб выкананні заданняў.
4. Вытворчыя нарады работнікаў інспектуры склікаюцца рэгулярна, але-ж яны мала эфектны, таму што не ўсе пытанні абгаварваюцца там (учот працы). У сувязі з гэтым і ацэнка работы інспектурай па ўчоту працы—нізкая.
5. Тэхмінімум работнікі інспектуры не праходзяць.
6. Соцспаборніцтва як унутры інспектуры, так і з іншымі інспектурамі не праводзіцца.
7. Справы інспектуры падшыты і знаходзяцца ў належным месцы. Усе ўчотна-статыстычныя матэрыялы, не падлягаючыя агалашэнню, хаваюцца ў шафе.

8. Грашовая кніга з кастрычніка месяца вядзецца не штодзённа, г. зн. не па меры ўзнікнення аперацый.

9. Кніга асноўных паказчыкаў вядзецца неакуратна, адсутнічае цэлы рад паказчыкаў. Звесткі для зводнага сектара УНГУ бяруцца не з гэтай кнігі, а з кароткага тэрміновага данясення.

10. Па Ходасаўскаму с/с учот амаль што зусім адсутнічае: у пагаспадарчых кнігах не робяцца адзнакі аб нараджэнні і смерці з студзеня месяца 1937 г., спісы гаспадарак і асоб, часова пражываючых на тэрыторыі данага с/с (ф. № 4 і 4-а), не вядуцца, кніга ўчота с/гас. кампаній (ф. № 18) не заведзена, а сакратар с/с аб ёй і паняцця не мае, не гледзячы на тое, што ў даным с/с працуе ўжо 1 год і 2 месяцы.

11. Па калгасу „Большэвік Мсціслаўшчыны“, Татаржынскага с/с, рахункавод не запрыходваў субару 6 цэнт., не завёў інвентарнай кнігі і кнігі вырашчвання маладняка, а ў асобных рахунках калгаснікаў (ф. № 36) працадні вядзе не па пяцідзёнках, а па месяцах. Акрамя таго не завёў кнігі злучной кампаніі і рэгістрацыю злучкі вядзе на асобных паперах няпоўна і неакуратна.

12. Па калгасу „Ротэ фанэ“, Татаржынскага с/с, дзякуючы сваёй бяздзейнасці рахункавод справу ўчота зусім запусціў. З верасня месяца не вядзе ніякай апрацоўкі дакументаў і да гэтага часу не завёў інвентарнай кнігі, а па асобных рахунках калгаснікаў працадні не вядзе ўжо з жніўня месяца.

13. Учот страт бульбы ў калгасе „Асоавіяхім“ праведзен злачынна. Участковы інспектар Дальнічэнка паказаў, што страты бульбы пры першай копцы складаюць 21,27 цэнт. з 1 га, тады як пры праверцы аказалася 26,6 цэнтнераў.

14. Калгаснікамі калгаса „Асоавіяхім“ пададзена заява на ўчастковага інспектара Дальнічэнка аб прысваенні ім жыта, аўса і бульбы ад метравання. Пасля праверкі справа накіравана ў раённую пракуратуру для далейшага расследвання і прыцягнення Дальнічэнка да адказнасці.

15. Участковы інспектар Дальнічэнка за нядобрасумленныя адносіны да службовых абавязкаў і за вочкаўціраецельства пры ўчоце страт бульбы знят з працы.

16. Раённаму інспектару т. Белову за паслабленне кіраўніцтва ўчастковымі інспектарамі і недастатковы кантроль іх работы аб'яўлена вымова.

## Вынікі абследвання пастаноўкі ўчота ў школах Касцюковіцкага раёна на 1/X 1937 г.

Пры правядзенні кантрольна-спісачнага ўчота ўстаноў народнай асветы ўчастковымі інспектарамі народна-гаспадарчага ўчота зроблена наведванне ўсіх школ раёна, дзе,

акрамя ўчота вучняў і настаўнікаў, праверана пастаноўка ўчота вядзення класных журналаў і інвентарных кніг.

Пры абследванні аказалася, што ўчот пастаўлен нездавальняюча. У радзе школ не вядуцца штодзённыя запісы ў класных журналах аб наведванні школы вучнямі і не заведзены інвентарныя кнігі.

У асобных школах становішча ўчота характарызуецца наступным:

1. Калодзецкая пачатковая школа Брацькавіцкага сельсовета—адсутнічае штодзённы запіс у класных журналах аб наведванні школы вучнямі.

2. Крывовіўская пачатковая школа, Дзеражанская НСШ, Вілуйская пачатковая школа і Бараўская пачатковая школа—інвентарныя кнігі не заведзены.

3. Ветухноўская НСШ—інвентарная кніга вядзецца неакуратна: не робяцца адзнакі аб зменах у маёмасці.

4. Гібальская пачатковая школа—учот пастаўлен дрэнна, штодзённыя запісы аб наведванні школы вучнямі робяцца не па ўсіх класах, не заведзена інвентарная кніга.

5. Мурынборская пачатковая школа—не кожны дзень робяцца адзнакі ў класных журналах аб наведванні школы вучнямі.

6. Бялынкавіцкая НСШ—учот інвентара адсутнічае і наогул учот заблытаны.

7. Карабаноўская і Шарэйкоўская пачатковыя школы—учот інвентара пастаўлен дрэнна.

8. Калодзецкая пачатковая школа—класны журнал вядзецца дрэнна.

9. Прагрэская і Астроўская пачатковыя школы—класныя журналы дрэнна вядуцца, а інвентарныя кнігі зусім не вядуцца.

10. Кісялёўская пачатковая школа—інвентарная кніга не заведзена.

11. У справаздачы ф. А-IV аб прыёме вучнаў па Ліпоtyp варучэйскай пачатковай школе значыцца на 1/X 1937 г. 90 вучняў тады, калі фактычна навучаецца 65 (справаздача складзена няправільна).

Скалінскай, Панько-Будзянскай і інш. школамі не ахоплены навучаннем дзеці школьнага ўзросту.

Прапановы:

1. Загадчыку райАНА т. Калюта неабходна неадкладна звярнуць належную ўвагу на пастаноўку і ўпарадачэнне ўчота ў школах і асабліва на ўчот маёмасці, так як без учота маёмасць раскрадваецца і знішчаецца.

2. Неабходна райАНА на падставе даных праверкі ўчота ў школах зрабіць указанне дырэктарам і загадчыкам школ аб ліквідацыі ўсіх заўважаных недахопаў па ўчоту ў школах.

3. Пажадана, каб інспектары райАНА пры інспектыра-

ванні школ абавязкова правяралі вядзенне класных журналаў, а таксама і інвентарных кніг. Акрамя таго, неабходна праверыць у школах, як захоўваецца інвентар.

4. Участковым інспектарам Наргасучота праверыць у школах выкананне ўсіх заўваг па пастаноўцы ўчота, якія былі зроблены ў час правядзення кантрольна-спісачнага ўчота.

Райінспектар НГУ Лугаўцоў.

## Выпіска з пратакола паседжання прэзідыума Лёзнянскага райвыканкома

*ад 13/XI 1937 г.*

Слухалі:

Аб факце вочкаўцірацельства ў Унаўскім с/совеце па зябліваму ворыву 1937 года.

Пастанавілі:

Прэзідыум РВК лічыць устаноўленым, што старшынёй Унаўскага с/совета тав. Куцькіным у зводцы райЗА на 15/X 1937 г. уключана 91 га зябі за калгасам „Новы шлях“, не атрымаўшы пісьмовага паведамлення ад калгаса, а на падставе слоўных даных, атрыманых ад брыгадзіраў к-са „Новы шлях“.

Лічыць такую практыку па складанню зводак недапушчальнай і шкоднай, парушаючай рашэнні ўрада па справаздачнасці і садзейнічаючай у вочкаўціраацельстве, за што т. Куцькін заслугоўвае суровага ўзыскання, але, улічваючы, што Куцькін прызнаў сваю памылку і даў абяцанне больш не паўтараць аналагічных фактаў—абмежавацца папярэджаннем яго, што калі яшчэ раз будзе ўстаноўлен аналагічны факт, ці нячоткасць у справаздачнасці па с/совету, да яго будуць прыняты самыя суровыя меры ўздзейнічання.

## Мазырскай інспектуры НГУ. Копія: АКР УНГУ, УНГУ БССР

Слуцкая райінспектура Наргасучота ваш выклік на соцспаборніцтва атрымала, пры абгаварэнні вашай соцумовы на нарадзе работнікаў Слуцкай райінспектуры НГУ пастанавілі: згадзіцца поўнасцю з выстаўленымі пунктамі вашай соцумовы і дадаем наступнае:

1) Усю правадзімую работу ўчастковага інспектара дакладна заносіць у дзенніку работы ўчастковага інспектара.

2) Своечасова і добраякасна правесці ўчот апрацоўкі ільна-даўгунца.

3) Вызначыць дакладна страты па бульбе і мабілізаваць увагу ўсіх калгаснікаў на барацьбу са стратамі.

4) Выконваць у тэрмін і добраякасна ўсе ўчотна-статыстычныя работы і даваць эканамічны аналіз гэтым работам і вынікі выносіць на шырокае абгаварэнне ўсіх калгаснікаў.

5) Побач з усімі работнікамі сістэматычна правяраць

становішча ўчота і справаздачнасці ў сельсоветах і калгасах, усямерна садзейнічаць і дапамагаць ім.

6) Заключыць соцумову паміж участковымі інспектарамі.

7) Арбітрам прасіць УНГУ БССР, а па рабоце ўчастковых інспектароў—акр. УНГУ і райінспектара.

Старшыня нарады, райінспектар НГУ Чырскі.
Сакратар Шытаў.

## Выпіска з пратакола паседжання праўлення калгаса „Большэвік“ Саматэвіцкага сельсовета, Касцюковіцкага раёна.

Прысутнічала 5 членаў.

Абвестка дня:

1. Аб учоце ў калгасе.

Па першаму пытанню слухалі ўчастковага інспектара Наргасучота т. ФЕДОСЕНКА, які адзначыў, што ўчот у калгасе—г. зн. правідловае яго вядзенне—гэта барацьба з усялякімі злачынствамі і што калгас без учота не можа забяспечыць і пракантраляваць своечасовае выкананне планавых заданняў і г. д. У калгасе ўчот пушчан на самацёк, што для шкодніцкіх элементаў у сельскай гаспадарцы з'яўляецца на руку. А пагэтаму, каб наладзіць учот, неабходна мабілізаваць вакол гэтага пытання ўвесь актыў калгаса. Неабходна ўстанавіць своечасовае прадстаўленне і афармленне пярвічных дакументаў брыгадзірамі, загадчыкам фермаў і г. д., што ў калгасе да гэтага часу не ўтваралася. Шчотнымі работнікамі своечасовая праверка па адпаведных кнігах у калгасе таксама не рабілася.

Выказаліся: т. Грузыноў, Бурака, Цыганкоў, Толчыкаў, старшыня рэўкамісіі Мендзелеў, Федосенко і старшыня калгаса Шорнікаў аб дрэннай пастаноўцы ўчота, з прычыны чаго былі ўсякія злоўжыванні, несвоечасовае ўзяцце на ўчот не давала магчымасці кантраляваць ход выканання планавых заданняў.

Заслухаўшы інфармацыю ўчінспектара т. Федосенка, праўленне калгаса пастанаўляе: рахункавода калгаса ФЕДОСЕНКО, які не забяспечыў правільнае вядзенне ўчота і паколькі ён неблаганадзейны і не можа забяспечыць правільнае вядзенне ўчота,—з работы зняць.

Да 1/XII 1937 г. падшукаць адпаведную кандыдатуру на пасаду рахункавода калгаса.

Брыгадзіра № 3 т. ДОРАХАВА П., за несвоечасовую дачу нарадаў, за несвоечасовае занясенне працадзён калгаснікаў у разліковыя кніжкі, што таксама тармозіць правільную пастаноўку ўчота, у апошні раз папярэдзіць, што калі ён не выправіцца ў рабоце, а таксама не ліквідуе адставанне па сельгасработах, будзе зняты з работы.

# СОЦУМОВА

Мы, работнікі райінспектуры Наргасучота Талачынскага раёна, райінспектар Шэфтэль, эканаміст Каган, статыстык Купрыянцава, участковыя інспектары Міснікаў, Чачоткін і Спаткай, на нарадзе 13/XI—37 года падвялі вынікі праведзеных намі работ і, улічваючы ўсю палітычную і гаспадарчую важнасць стаячых перад намі работ (як-та: падрыхтоўка і перапіс жывёлы па становішчу на 1/I 1938 года і квартальна-гадавая справаздачнасць па фермах калгасаў, учот працы і зарплаты), бяром на сябе наступныя абавязацельствы:

1. Весці масава-растлумачальную працу сярод працоўных мас Талачынскага раёна аб палажэнні аб выбарах у Вярхоўны Совет.

2. Усю работу праводзіць, строга прытрымліваючыся плана.

3. Падрыхтоўку да перапісу жывёлы і самы перапіс правесці добраякасна і ва ўстаноўлены тэрмін, здаўшы матэрыялы з ацэнкай не ніжэй як на „добра".

4. Асвятляць задачы перапісу жывёлы ў раённым друку і весці масава-растлумачальную работу сярод насельніцтва.

5. Правесці падбор кадраў для перапісу жывёлы з палітычна-давераных і тэхнічна пісьменных людзей.

6. Ужо зараз пачаць весці масава-растлумачальную працу падрыхтоўку да перапісу насельніцтва.

7. Правесці добраякасна і своечасова квартальна-гадавую справаздачу па рабоце ферм калгасаў і здаць яе з ацэнкай на „выдатна".

8. За лістапад і снежань месяцы забяспечыць добраякасную і своечасовую дастаўку матэрыялаў УНГУ БССР па працы і зарплаце.

9. Забяспечыць 100% ахоп соцспаборніцтвам работнікаў інспектуры НГУ.

10. Дабіцца да 1938 года перавода інспектуры НГУ ў першую катэгорыю.

Па ўсіх вышэйпералічаных пунктах выклікаем на соцспаборніцтва інспектуру НГУ Круглянскага раёна.

Арбітрам просім быць УНГУ БССР

Райінспектар НГУ Шэфтэль.
Эканаміст Каган.
Статыстык Купрыянцава.

Участковыя інспектары: Міснікаў, Спаткай, Чачоткін.

Зацвярджаю:
ч. в. а. нач. УНГУ БССР
*Абудзееў.*

## План работ райінспектур народна-гаспадарчага ўчота на снежань месяц 1937 г.

| Назва работ | У чым заключаецца работа | | Тэрмін прадстаўлення матэрыяла ў УНГУ БССР |
|---|---|---|---|
| | райінспектара | участковых інспектароў | |
| **Па сельскай гаспадарцы** | | | |
| Падрыхтоўка да ўсесаюзнага перапісу жывёлы на 1/I 1938 года (па прадугледжанай праграме). | Падбор кадраў для правядзення перапісу жывёлы. | Падбор кадраў для правядзення перапісу жывёлы на тэрыторыі свайго ўчастка. | 20/XI: |
| | Масавая работа па правядзенню перапісу жывёлы. | Масавая работа па правядзенню перапісу жывёлы на тэрыторыі свайго ўчастка. | Да пачатку перапісу жывёлы 1/I 1938 г. |
| | Удакладненне спісаў населеных пунктаў і гаспадарак дзяржкааперсектара. | Удакладненне спісаў населеных пунктаў і гаспадарак дзяржкааперсектара на тэрыторыі свайго ўчастка. | 10/XII—37 г. |
| | Інструктаж удзельнікаў перапісу жывёлы. | | |
| Квартальны ўчот жывёлагадоўчых ферм у 25% калгасаў. | Кантроль за ходам складання квартальных справаздач. | Кантроль за ходам складання квартальных справаздач на тэрыторыі свайго ўчастка. | 15/I—38 г. |
| **Па культуры** | | | |
| Падрыхтоўка да гадавой справаздачнасці і кантрольнаму ўчоту агульнаадукацыйных школ для дарослых, кіно-ўстановак і газет. | Інструктаж ВНУ, тэхнікумаў, рабфакаў і ФЗУ па запаўненню гадавой справаздачнасці і забеспячэнне іх бланкамі. Праверыць забяспечанасць рай(гор)АНА бланкамі справаздачнасці дзіцячых садоў, дамоў, бібліятэк і клубных устаноў. Інструктаж участковых інспектароў па кантрольнаму ўчоту школ для дарослых, кіно-ўстановак і газет. | Правядзенне работ па кантрольнаму ўчоту школ для дарослых, кіно-ўстановак і газет. | На працягу месяца. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Па промаддзелу** | | | |
| Складанне спісаў прамысловых прадпрыемстваў для гадавога абследвання. | Складанне спісаў. | Складанне спісаў | |
| Збор картак па працы № 1 і 1-а за лістапад месяц. | Кантроль і праверка | Наглядание за прадстаўленнем у тэрмін | 15/XII. |
| **Па ўчоту совецкага гандлю.** | | | |
| Штомесячны ўчот рэалізацыі сельскагаспадарчых прадуктаў на гарадскіх калгасных рынках. | Нагляд, інструктаж і кантроль работы кіраўніцтва рынкаў па гораду і дасылка зводак у УНГУ. | | 27/XII. |
| Штомесячная рэгістрацыя цэн на гарадскіх калгасных рынках па ўсіх раённых цэнтрах на 25/XII і па Менску, Віцебску, Гомелю і Мсціслаўлю дадаткова на 5 і 15/XII. | Рэгістрацыя цэн на рынках. | | У дзень рэгістрацыі. |
| Рэгістрацыя розні́чных цэн дзяржгандля на бульбу, гароднiну, малочныя тавары і яйкі (па Менску, Віцебску і Гомелю). | Непасрэднае правядзенне рэгістрацыі і дасылка матэрыялаў у УНГУ і ЦУНХУ. | | 25/XII. |
| **Па бюджэтах** (толькі для раёнаў, якія праводзяць бюджэтныя абследванні). | | | |
| Бюджэтнае абследванне калгаснікаў. | Праверка работы гнездавых інструктароў і дапамога ім у штодзённай рабоце. | Дапамога ў рабоце гнездавых інструктароў. | 13/XII. |
| Бюджэтнае абследванне рабочых (сямей і адзіночак). | Таксама | Таксама | 13/XII. |

(Працяг)

**План работ райінспектур народна-гаспадарчага ўчота на снежань месяц 1937 г.**

| Назва работ | У чым заключаецца работа | | Тэрмін прадстаўлення матэрыяла ў УНГУ БССР |
|---|---|---|---|
| | райінспектара | участковых інспектароў | |
| Падрыхтоўка да перазаклад-вання бюджэтаў рабочых на 1938 г. і адбор аб'ектаў. | Правядзенне масава-растлумачальнай работы на прадпрыемствах, адбор аб'ектаў, правядзенне нарады з аб'ектамі і прэміраванне старых аб'ектаў. Высылка справаздач аб адборы новых аб'ектаў і прэміраванні аб'ектаў. | | 20/XII. |
| **Па насельніцтву і ахове здароў'я** | | | |
| Натуральны рух насельніцтва за лістапад месяц. | Нагляд за пастаноўкай і рэгістрацыяй актаў грамадзянскага становішча, паўната і своечасовасць рэгістрацыі, адсылка другіх экземпляраў з сельсоветаў і горЗАГС'аў ва ўстаноўлены тэрмін. Своечасовае атрыманне і кантроль формы № 97, вядзенне дзенніка, адсылка ф. № 97 у УНГУ ва ўстаноўлены тэрмін. | Праверыць работу ЗАГС'аў ва ўсіх сельсоветах. Дабіцца 100% высылкі другіх экземпляраў у райбюро ЗАГС'аў строга ва ўстаноўлены тэрмін. | 10/XII. |
| Механічны рух насельніцтва за лістапад месяц. | Адрыўныя талоны ад адрасных сталоў атрымоўваць кожнага 5, 10, 15, 20, 25 і 30 чысла і падвяргаць дакладнаму кантролю. За месяц скласці раённую зводку і разам з адрыўнымі талонамі прадставіць у аддзел насельніцтва. Вядзенне бягучай картатэкі даных аб механічным руху насельніцтва па асобых гарадах і паспартызаваных раённых цэнтрах, сістэматычная выбарачная праверка вядзення прапіскі і выпіскі насельніцтва | | 5/XII. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | ў домаўладаннях. Правесці інструктаж работнікаў жактаў, домаўладанняў і гасцініц аб парадку і тэрмінах вядзення ўчота механічнага руху насельніцтва (па складзенаму плану РІНГУ). | | |
| **Па ўчотнай інспекцыі.** | | | |
| Пярвічны ўчот у сельсоветах на 1938 г. | Атрымаць пагаспадарчыя кнігі і прапячатаць іх сургучнай пячаткай.<br>Склікаць інструкцыйную нараду сакратароў сельсоветаў, раздаць ім пад распіску кнігі і праінструктыраваць іх аб правілах завядзення кніг.<br>Пачынаючы з 20 снежня, дасылаць інфармацыі кожныя 10 дзён аб ходзе запаўнення пагаспадарчых кніг.<br>Аб зрыве або няправільным запаўненні кніг ставіць пытанне на прэзідыуме РВК. | Сістэматычна правяраць у сельсоветах, як запаўняюцца пагаспадарчыя кнігі, асабліва раздзел насельніцтва, інструктаваць сакратароў сельсоветаў на месцы аб парадку запаўнення кніг, інфармаваць райінспектара аб ходзе запаўнення пагаспадарчых кніг па сельсоветах. | |
| План работы на снежань. | Давесці план работы кожнаму ўчастковаму інспектару і правяраць іх работу як праз дзеннікі, так і на месцы. | Весці штодзённы запіс у дзенніках аб праведзенай рабоце. | |
| **На бюро перапісу насельніцтва** | | | |
| Складанне спісаў населеных месц і ўдакладненне схематычных карт сельсоветаў і раёнаў. | Інструктаж аб парадку складання спісаў населеных месц і ўдакладненне схематычных карт.<br>Праверка правільнасці складання спісаў населеных месц шляхам выезду на месцы. | Складанне спісаў населеных месц шляхам суцэльн. абхода ў натуры ўсіх населен. месц на сваім участку і зарысоўка населеных месц на карту. | Прадстаўленне інфармацый 14\|XII і 28-XII.<br>Работа гэта па 70% с./с. павінна быць законч. да 1\|1—38 г. |
| Складанне спісаў домаўладанняў у гарадах, рабочых пасёлках (зацверджаных) і паселішч гарадскога тыпа (зацверджаных). | Арганізацыя работы па складанню спісаў домаўладаннаў. Інструктаж аб парадку іх складання і нагляданне за паўнатой і правільнасцю іх складання. | Складанне спісаў домаўладанняў па ўказанню райінспектара НГУ. | 40% усёй работы павінна быць выканана да 1\|I—38г. |
| Удакладненне планаў гарадоў. | Арганізацыя работы па ўдакладненню планаў гарадоў. | | |

